Цана асобнага нумару 17 грошаў.

# Сын Беларуса

Адрэс рэдакцыі і адміністрацыі: **Вільня, Віленская вул. 12, п. 6.** (Wileńska 12 m. 6).
Рэдакцыя адчынена ад **12** да **2** г. штодня апрача сьвяточных дзён. Адміністрацыя ад **9** да **3** г.

**Выходзіць тры разы у тыдзень.**
Падпіска на **адзін месяц** з дастаўкай да хаты **2 злотыя**
Для заграніцы удвая даражэй.

Няпрынятыя у друк рукапісы назад не вяртаюцца.
Аплата надрукованага залежыць ад Рэдакцыі.
Цана абвестак: перад тэкстам 25 грош., сярод тэксту 20 грош. і на 4 стр. 15 грош., за радок пэтыту у 1 шп.

№ 18. Вільня, Пятніца, 25-га ліпня 1924 г. Год I.

## Паслы і грамадзянства.

Ад часу да часу—ў канцы і ў пачатку соймавае сэсіі—нашы паслы робяць справаздачу Беларускаму Нацыянальнаму Камітэту аб сваей дзейнасьці. I ў жывым абмене думкамі прадстаўнікоў арганізаванага грамадзянства і выбраных народам дэпутатаў выяўляюцца з асаблівай яркасьцяй пануючыя ў грамадзянстве настроі, даюцца коррэктывы да дзеяльнасьці беларускага прадстаўніцтва ў Сойме.

Такі абмен думкамі меў месца ў нядзелю, 20 ліпня, калі была вынесена зьмешчаная ніжэй рэзалюцыя аб поўнай салідарнасьці Камітэту з пасламі ў справе становішча апошніх адносна да праведзеных Урадам законаў аб роднай мове беларускае, украінскае і літоўскае люднасьці ў Польскай Рэспубліцы. I нечага дзівавацца такой аднадушнасьці: гэта-ж наш пасольскі клюб—косьць ад косьці і кроў ад крыві Бел. Нац. Камітэту, які *рэкамандаваў* нясяленьню кандыдатаў у паслы, так дружна праведзеных на выбарах у Сойм і Сэнат.

Затое асаблівую ўвагу зварачае на сябе зьмешчанае ў нас пісьмо прадстаўнікоў тае групы, якая ўвесь час шла на паваду ў польскага Ураду і вяла самую недастойную барацьбу з нашым пасольскім прадстаўніцтвам у часе выбараў і пасьля выбараў. Гэтая група йшчэ нядаўна выдавала ў Горадні нейкую газэціну ў беларускай мове, у якой вяла сыстэматычную кампанію проці нашых паслоў і іх дзейнасьці ў Сойме і па-за Соймам.

Пісьмо п. п. Шурпы і Міткевіча паказуе з поўнай ачывістасьцяй, што беларуская палітыка ў сучаснай Польшчы можа йсьці толькі па тэй лініі, па якой ідзе нашае прадстаўніцтва ў польскім Сойме. I на гэтым грунце, на грунце неабходнае самаабароны ізноў наладжываецца *адзінства нацыянальнага фронту.*

Авантурныя выступленьні нанятых за грошы крыміналістаў, якія пробуюць на віленскім грунце прадстаўляць нейкую быццамто „ідэйную“ апазіцыю беларускай агульнанацыянальнай палітыцы, не зварачаюць на сябе ніякае ўвагі: лішне ўжо белымі ніткамі шыта гэта „работа“. Не памогуць і фабрыкаваныя ў „беларускай экспозытуры“ аднае дужа „папулярнае“ установы „уласныя тэлеграмы“ газэты „Słowo“ аб ніколі ня меўшых месца падарожах нейкіх паслоў з Беларускага Клюбу ў Менск—шукаць абароны ад гэнае крымінальнае кампаніі!

Беларускае грамадзянства мурам стаіць за сваімі пасламі, якія вядуць няўхільную барацьбу ў Сойме за зьдзейсьненьне тых лёзунгаў, што былі абвешчаны ў часе выбарнае кампаніі. I пад той час, як канкураваўшая з намі на выбарах польская партыя „Вызволене“ бязбожна ашукала выбаршчыкаў і, узяўшы ад іх мандаты, прадала інтарэсы нашага беззямельнага і малазямельнага сялянства, падтрымліваючы вайсковых асаднікаў, прадала і беларускую школу, падтрымліваючы урадовыя законы аб „двуязычных“ школах,— Беларускі Пасольскі Клюб ні на адзін крок не адступіўся ад выбарнае праграмы.

Наадварот: нашы дэпутаты йшчэ пашырылі гэтую праграму, замест здыскрэдытаванае аўтаноміі выстаўляючы дамаганьне поўнага самавызначэньня для Заходняе Беларусі.

*Еднасьць паслоў і народу* — гэта залог таго, што праца нашага соймага прадстаўніцтва—раней ці пазьней—*дасьць свае плады.* I той факт, што нават сучасны Сойм быў *прымушаны* прызнаць беларускасьць Віленшчыны, а также Навагрудзкага, Палескага і часьці Беластоцкага ваяводстваў (хоць і „анэктаваўшы“ чатыры заходнія паветы з беларускай людчасьцяй!), найлепей сьведчыць, што сучасная беларуская палітыка ў Польшчы—на добрай дарозе!

## Памятайце аб роднай школе!

Пазнаёміўшыся з „новымі“ законамі аб ужываньні беларускае мовы ў школах, можам з глыбокім пераканаíньнем сказаць, што **ўрадовае** беларускае школы нам у Польшчы бачыць не давядзецца! Іменна **новага** ў гэтых законах для нас ня будзе нічога: ўсё астанецца па стараму.

Дык што-ж рабіць? А тое, што рабілі дагэтуль, але толькі **падвоіўшы сваю энэргію**, напружыўшы ўсе свае сілы! Як і дагэтуль, трэба вясьці сваімі сіламі **прыватныя беларускія школы**, разьвіваючы і паляпшаючы тое, што ўжо істнуе, закладаючы новыя.

Трох істнуючых гімназіяў для нашае моладзі ў межах Заходняе Беларусі — бязумоўна мала! Трэба іх лічбу павялічыць вельмі значна. Мы маем весткі з розных мейсц аб тым, што народ жадае вучыць сваіх дзяцей у беларускіх гімназіях, толькі мясцовая ўлада ў гэтым перашкаджае. Вось-жа гэную перашкоду трэба зламаць, трэба ўчыніць усё, каб дабіцца адкрыцьця ў першы чарод прынамся двух гімназіяў—замест зачыненых летась уладай Нясьвіскае і Гарадоцкае. Кандыдатамі на гэтыя гімназіі зьяўляюцца Клецк і Глыбокае.

Адначасна трэба рабіць усе заходы, каб захаваўшыся яшчэ ў нас перажытак расейскіх часоў—расейскія гімназіі, у якіх вучацца ўсе, апрача толькі... расейцаў, паступова, пачынаючы ад наймалодшых клясаў, пераходзілі на выклад у белерускай мове. Гэта вельмі важная і сьпешная задача, якой трэба было-б паважна заняцца нашай Школьнай Радзе. Мы пераканаíны, што вучыцялём гэткіх гімназіяў шмат лягчэй перайсьці на беларускую мову, чым на польскую, дый хутчэй можна спадзявацца адваяваньня правоў для беларускае прыватнае гімназіі, чым для расейскае. Дый гэта—адзіны выхад для істнуючых на нашай зямлі расейскіх гімназіяў, калі яны не маняцца пайсьці па сьлядох Віленскае Праваслаўнае Духоўнае Сэмінарыі... Але нават і „спольшчыўшыся“ яны ніколі ня здолеюць канкураваць з польскай урадовай гімназіяй і раней ці пазьней прымушаны будуць зьліквідавацца.

Другая задача—гэта справа **прыватных** беларускіх пачатковых школаў. Народ хоча такое школы, сяляне гатовы плаціць за навуку сваіх дзяцей, што і робяць, наймаючы прыватных вучыцялёў — так-званых „дарэктараў“. Абавязкам Беларускае Цантральнае Школьнае Рады было-б толькі **арганізаваць** гэту справу, даць сваю ініцыятыву. Мо' ад тугуттаўскіх законаў аб мове ў школах будзе хоць тая карысьць, што ўлада, па стараму не дапускаючы ўрадовых беларускіх народных школ, ня будзе хаця перашкаджаць прыватным.

У склад сучаснае Школьнае Рады ўвайшоў цэлы рад новых працаўнікоў, якія і ўзялі ў свае рукі кіраўніцтва работай. Няхай-жа яны апраўдаюць узложаныя на іх спадзяваньні тых, хто іх выбіраў. За летнія месяцы — час перарыву ўсялякіх сталых работ і ў школах, і ў Сойме,—Школьная Рада магла-бы шмат зрабіць у гэтым кірунку і—зрабіць павінна!

**Г. Б.**

# Бюджэт Польшчы у Сойме.

### Міністэрства чыгунак.

Дакладчык міністэрства чыгунак падаў цікавую лічбу яго дэфіцыту — больш, як 13 мільёнаў злот. толькі за 4 месяцы гэтага году!.. Не памагло выдзяленьне п. Грабскім чыгункавай гаспадаркі ў „асобную самастойную адзінку“...

У часе дыскусіі ўзьнялася цікавая слоўная сутычка паміж хадэкам Пачкоўскім і эндэкам Рабскім, якому першы вельмі „груба“ закідаў, што той у сваей газэце („Кур. Варшаўскі“) раптам пачаў гэтак горача бараніць і абяляць нашага віленскага „дырэктара“ Ляндсбэрга. Дзеля чаго, — аб тым ходзяць розныя чуткі...

### Міністэрства сельскай гаспадаркі.

Міністар п. Яніцкі кажа, што сельскай гаспадаркай займаюцца ў Польшчы тры чэцьверці яе насяленьня, але як урад, таксама і грамадзянства вельмі мала робяць для падняцьця яе на вышэйшую ступень. Крэдытная палітыка ўраду найлепш сьведчыць аб гэтым.—За 1922 г. прамысловасьць атрымала на 560 мільярдаў крэдытаў, а хлебаробства — толькі 26... (няма чаго казаць аб тым, што ўсё гэта атрымалі польскія абшарнікі ці асаднікі, а беларускі хлебароб не дастаў літэральна нічога)!..

Міністар сцьвярдзіў, што польскі скарб не выдае крыдытаў на паляпшэньне грунтаў у краі, бо ня мае грошы. Для тых 10.000 гэктараў балотаў, якія патрабуюць асушкі (гэта-ж ўсё нашае Палесьсе!), што можна зрабіць толькі ў шырокім маштабе засобамі дзяржаўнага скарбу, ня зроблена нічога. „Завядзеньне культуры на паўтары мільёнах няўжыванай зямлі на Крэсах было б наймацнейшым палітычным атутам Польшчы на Ўсходзе“, выклікае патэтычна міністар. — Можа і было-б, але нават і гэтага „аграномічнага атуту“ Польшча на Крэсах ня мае!..

З 78 ніжэйшых аграномічных школаў у Польшчы няма для беларускага хлебароба ніводнай!

З вельмі цікавым спакоем казаў п. міністар аб „надужыцьцях“ у ўрадавай гаспадарцы польскімі казённымі лясамі...—„Надужыцьці былі, ёсьць і будуць; ураду трэба толькі старацца, каб утрымаць іх у належных межах“ (!) Ведама, надужыцьці „былі, ёсьць і будуць“, пакуль сам польскі ўрад робіць іх, вядучы рабунковую лясную гаспадарку, аддаючы гэтую народную маемасьць—на „канцэсіі“ розным Балаховічам і іншым.

Вызваленец **Панятоўскі** да гэтага дадаў цікавыя абразы лясное гаспадаркі. Аказываецца, што польскі ўрад прадаў наперад на 10 гадоў усё, што толькі можна высрубіць у Белавежскай Пушчы...

Украінец **Братунь** ад імя украінскага і беларускага клюбаў кажа, што яны будуць галасаваць проці бюджэту—ў знак пратэсту проці гэтай рабунковай лясной гаспадаркі на „Крэсах“, якая найлепей даводзіць, што сам польскі ўрад ня мае зусім пэўнасьці, што—ўтрымае гэтыя „Крэсы“, і — дзеля таго сьпяшыць высмактаць з іх усё іхняе багацьце...

### Бюджэт Мін. Асьветы і Рэлігіяў.

Дакладчык падаў гэткія лічбы. — Усяго ў Польшчы ў гэтым годзе 32.000 усялякіх школаў, больш як 90.000 вучыцялёў і 4.000.000 вучняў.

У 1919 г. было 15.000 школаў і 37.000 вучыцялёў, прычым палова тых школаў былі няпольскія.

Шкада толькі, што ён не дадаў, сколькі гэтых няпольскіх, напрыклад—беларускіх, за гэтыя пяць гадоў зачынены ці перароблены на польскія.

Ён казаў, што ў пачаткавай школе ў Польшчы павінна адбываць навуку 4 з паловай мільёна дзяцей, а ў запраўднасьці вучыцца толькі 3 з паловай.

Ізноў — шкада, што ён не дадаў, што ўвесь гэты нехапаючы мільён складаюць беларускія і украінскія дзеці, якім польская ўлада не дае роднай школы...

Дакладчык сцьвярджае, што ў Польшчы так многа польскіх вучыцельскіх сэмінарыяў, што хутка ўжо для іх у Польшчы ня хопіць „пасадаў“. I гэта—ў той час, калі абедзьве беларускія сэмінарыі зачынены ўладай!

